● ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# АБСТРАКЦЫЯ

*Абстракцыя – адцягненае паняцце. Абстрактны – адцягнены, неканкрэтны. (З тлумачальнага слоўніка беларускай мовы).*

Ужо не першы раз разгортваю якую-небудзь газету, і не першы раз крык адчаю і болю ляціць да мяне з яе старонак: „Дапамажыце! Выратуйце дзіця!" Ды і ў нашым раёне ў мінулым годзе прыходзілася сустракаць такое маленне. І міжволі пасля прачытаных радкоў узнікае пытанне. Чаму? Чаму для выратавання свайго дзіцяці становіцца яго маці на калені перад намі, простымі людзьмі? Дзе ж яны, дабрачынныя фонды кшталту „Дзецям Чарнобыля", дзе, урэшце рэшт, сама дзяржава? Дзе і як расходуе яна грошы, што складаюцца з „чарнобыльскіх" падаткаў?

...У тыя недалёкія яшчэ часы нас вучылі любіць Радзіму. Не той куточак зямлі, на якім нарадзіўся і вырас, не тую стужку ракі, дзе гаючая вада здымала летнюю спёку, не той гаманлівы бярозавы гай, а нешта вялікае, незразумелае, што і на карце немагчыма было ахапіць адным позіркам – Эс-эс-эс-эр! Яно сапраўды было абстрактным, гэтае нашае паразуменне Радзімы з вялікай літары, і любоў да яе ў нас была такой жа - абстрактнай. Мы і любілі быццам бы яе, і ў той жа час заставаліся абыякавымі, калі пляшчылі векавыя дубровы побач з бацькоўскай хатай...

„Человек человеку друг, товарищ и брат". Нас вучылі любіць і паважаць чалавека савецкага. Не суседа па кватэры, не прадаўца магазіна, а нейкага сярэдняга чалавека, нешта размытае, неканкрэтнае – абстрактнае. Вынік такога навучання сёння перад усімі намі...

А яшчэ нам убівалі ў галовы, што „ўсё лепшае – дзецям!". Не мне канкрэтна, не табе, не суседскаму хлопчыку, не дзяўчынцы за суседняй школьнай партай, а наогул – усім! У гэтым слове „ўсе" кожнае дзіця паасобку рабілася непрыкметным, зацiснутым у выразна акрэсленае кола „савецкія дзеці". Гэтыя дзеці з асобных хлопчыкаў і дзяўчат пераўтвараліся ў асобны гурт грамадства, які заказныя пісакі напышліва ахрысцілі „прывілеяваным класам". Рабочы клас у нас ужо быў, было сялянства, была „прослойка" інтэлігенцыі. З'явіўся і клас дзяцей.

Мо памятаеце яшчэ, як некалькі гадоў таму праходзіў грандыёзны тэлемарафон, арганізаваны Дзіцячым фондам (тады яшчэ – ўсесаюзным). Суму Фонд сабраў вельмі значную. І тады ж дырэктар яго сказаў, што грошы пойдуць дзецям. Але... не варта звяртацца па дапамогу для нейкага канкрэтнага дзіцяці. „Мы дапамагаем **усім** дзецям!". Бязглуздзіца нейкая атрымліваецца – **ўсе** дзеці і складаюцца ж з **асобных!**

Нашыя беларускія фонды таксама ў большасці сваёй адмаўляюць у грашовай дапамозе канкрэтнаму дзіцяці. Не будзем прыводзіць тут матывацыю іх адказаў, сэнс яе прыкладна такі: „Лепей патраціць грошы на аздараўленне ці паляпшэнне ўмоў жылля дзесяці дзетак, чым выратаваць (і ці выратаваць яшчэ?) адно".

Спрачацца з гэтым я не жадаю. Толькі ці не згадваецца ў дзеяннях гэтых фондаў, у дзеяннях самой дзяржавы ўсё тая ж абстрактная любоў да ўсіх?

Некалі мне давялося прачытаць такі выраз: „Шчасце цэлага грамадства не каштуе і слязінкі аднаго дзіцяці". Вось гэта ўжо – не абстракцыя. Гэта формула пабудовы, закон чалавечага грамадства. І вучыць таму, што пры пабудове самага найсвятлейшага ладу немагчыма ахвяраваць не тое што жыццём, а і здароўем нават аднаго чалавека. А цяпер узгадайце, як будавалі светлую будучыню мы. „Лес рубят – щепки летят..."

Мы – народ Беларусі. Гэта тая ж самая абстракцыя, і застанецца яна такой да таго моманту, пакуль кожны з нас не адчуе сябе беларусам. У любым іншым выпадку мы – проста натоўп, не з'яднаны нічым, толькі пражываннем на тэрыторыі гэтай краіны.

Усё вялікае пачынаецца з малога, непрыкметнага. Любоў да прыроды – з нераскіданага гнязда жаваранка, любоў да радзімы – з любові да роднай хаты. Нельга ўрэшце любіць усіх дзяцей, не заўважаючы суседскага хлапчука-інваліда. А нас вучылі наадварот. І паспяхова, трэба прызнацца, вучылі.

Усе мы, быццам бы, гаспадары ў гэтай краіне, а кінеш вокам – адчувае і паводзіць сябе тут кожны, як хлапчук-падлетак у суседскім садзе. Той жа калгас узяць: хто ў ім, акрамя старшыні, сябе гаспадаром адчувае? А як усе разам – гаспадары! Па-навуковаму калі казаць, то гэта метамарфозай называецца. А завод узяць ці яшчэ прадпрыемства якое, няхай сабе і акцыяніраванае? Хіба ў ім не тое?

...І іншы раз здаецца, што ўсе мы – суцэльная абстракцыя. Беларусь быццам бы ёсць, і прэзідэнт у краіне, і сцяг, і герб, а вось беларусаў паасобку нешта і не бачна, і ў свеце пра іх не чуваць...

Мо таму так і жывём – наверсе недзе кажуць пра нейкую стабілізацыю на мікраўзроўні, а ўнізе – усё горай і горай.

А мо ад Бога нам такая доля? Нам, людзям з абстрактнай любоўю да сваёй радзімы, абстрактным грамадзянам краіны з абстрактнай незалежнасцю...

**В. ГАПЕЕЎ.**

● КУЛЬТУРА

# КЛУБ ТЫ МОЙ ВЯСКОВЫ

Той, хто не толькі чытаў у газетах, а і слухаў выступленне нашага Прэзідэнта А. Р. Лукашэнкі па праблемах сацыяльна-культурнай сферы, мабыць заўважыў эмацыянальнасць і шчырую занепакоенасць кіраўніка краіны існуючым становішчам. Нельга адмовіць у слушнасці словаў Прэзідэнта, калі ён казаў аб тым, што клуб і царква на вёсцы – два месцы, якія павінны збіраць вакол сябе людзей, яднаць, духоўна ўзбагачаць. (Словы гэтыя ў даклад не трапілі, гэта была, так мовіць, імправізацыя Аляксандра Рыгоравіча ў час выступу).

Сёння калі хто і ўспамінае былое панаванне камуністычнай партыі, то хіба што са словамі лаянкі. Але вось у плане сацыяльна-культурных мерапрыемстваў партыю варта ўзгадаць усё ж словамі добрымі. Няхай і неслі хвалі гэтых мерапрыемстваў зашмат ідэалагічнай пены, але – будаваліся клубы, разгортвалася вясковая кінасетка, адчыняліся бібліятэкі. Можна са мной і паспрачацца, узгадаўшы ўсё той жа рэшткавы метад фінансавання культуры. Але справа не ў гэтым, а ў тым, што сёння клубы не будуюцца, а зачыняюцца. Рэдка дзе ў вёсках „круцяць кіно" – прапануемы рэпертуар не ў стане адарваць гледача ад тэлевізара і прымусіць ісці ў клуб. Дзенідзе і бібліятэкі сталі „непатрэбнымі".

Вось і ў Выганашчанскім клубе зіму і вясну фільмаў гледачам не прапаноўвалася. Не ішлі людзі. Тут і мароз яшчэ сваё слова сказаў, і нейкая, відаць, ужо ўсеагульная наша лянота.

Не надта прывабны выгляд мае будынак клуба – рамонт тут ужо даўно патрэбен. Але маларыемнае ўражанне ад будыніны добра загладжвала яго гаспадыня – маладая, сімпатычная дзяўчына – Людміла Ланец.

Чаму выбрала такім свой жыццёвы шлях – цяжка сказаць. Цягнула яе на такую працу, вырашыла і паехала вучыцца па накіраванню ў Гродна. Вывучылася і вось ужо пяць год працуе ў Выганашчанскім клубе. Цяпер – адна. Была ў яе памочніца, ды мала задавальнялі жанчыну і заробкі, і ўмовы працы, і – знайшла сабе іншую работу. Але, здараецца заглядвае да сяброўкі ў клуб, каб памагчы дзе словам, дзе – справай.

Нехта, мо, і плячыма паціске – хіба цяжка ў клубе працаваць? Адчыніла вечарам, уключыла музыку – няхай вытанцоўвае сабе моладзь... Ды клуб – гэта не толькі дыскатэка. Няхай і збіты гэты выраз, але ўсё ж варта ўспомніць яго – „очаг культуры". Можна, вядома, усё пусціць на самацёк, тлумачачы сваю бяздзейнасць, адным словам: „не хочуць". А можна хадзіць па вёсцы, шукаць таленты, пастаянна ўгаворваць, пераконваць. Урэшце – зацікавіць, арганізаваць хоць невялічкі фальклорны ансамбль, і людзі ўбачаць: ёсць у іх здольнасці, ёсць жаданне, ёсць удзячныя слухачы. Вось менавіта так і спрабуе працаваць Людміла Мікалаеўна. Няхай не ўсё ў яе атрымліваецца так, як хацелася б, але створаны і фальклорны калектыў, працуе і сольны гурток, і сямейныя калектывы, што з песнямі сябруюць, знайшліся ў Выганашчах. Самі сябе абшываюць і апранаюць артысты. Прыняць удзел у раённых спаборніцтвах – аглядах не саромеюцца, і перад сваімі землякамі выступіць падчас святаў, песняй іх добрай парадаваць – асабліва ўгаворваць не трэба.

Не застаюцца па-за ўвагай і дзеці. Тры дзіцячых гурткі працуюць пры вясковым клубе – музычныя, мастацкія.

Ну, а дыскатэка, вядома ж, справа патрэбная. І хоць ходзяць на яе ў асноўным старшакласнікі, але на вялікія святы збірае да сябе клуб і мясцовую інтэлігенцыю – людзям на самой справе патрэбны зносіны не толькі на працы, а і падчас адпачынку.

Так, не ўсё пакуль што атрымоўваецца ў Людмілы Ланец. Прызнае яна гэта сама, адзначыў гэта ў гутарцы з намі і старшыня сельскага Савета П. М. Данілевіч. Прыемна было чуць, што не застаецца ўбаку ад спраў вясковай культуры сельскі Савет, што непакоіць яго старшыню і тое, як выступіць фальклорны калектыў у конкурсе раённым „Ляці, наша песня", і тое, што няма пакуль што ў клубе сваіх музыкантаў. І гарманісты на вёсцы ёсць, ды вось не атрымліваецца яшчэ пераканаць іх у тым, каб не хавалі свае таленты ў вузкіх колах слухачоў.

Але, усё ж, вёска – жыве. Калі ёсць у ёй людзі, якія не забыліся яшчэ пра песні свае, то значыць, не згубіўся яшчэ той самы стрыжань, які называецца духоўнасцю. Значыць, яшчэ не згубіліся ў нетрах усеагульнага пагаршэння жыццёвых умоў надзея на лепшае, вера ў будучыню.

Неяк адзін з вялікіх грэкаў сказаў, што калі народ перастае спяваць, то гэта азначае, што ён пачынае паміраць. Над словамі гэтымі варта падумаць. І не толькі маладой загадчыцы клуба, не толькі старшыні сельскага Савета, не толькі раённым уладам. Усім нам.

**В. ВОСАВЕЦ.**

● АЛЛО, РЭДАКЦЫЯ?



# ЛЬГОТЫ – ВЕТЕРАНАМ

***„Я – инвалид Великой Отечественной войны. Пожалуйста, расскажите на страницах вашей газеты о тех льготах, которые предусмотрело государство для участников минувшей войны".***

***Н. К. МОРОЧКО,***

***д. Бытень.***

***Уважаемый Николай Кириллович, с удовольствием выполняем Вашу просьбу. Надеемся, что наша публикация заинтересует многих других наших читателей, кто также пережил военное лихолетье.***

## ЛЬГОТЫ ПО МЕДИЦИНСКОМУ ОБСЛУЖИВАНИЮ, САНАТОРНО-КУРОРТНОМУ ЛЕЧЕНИЮ:

– бесплатный отпуск лекарств по рецептам врачей;
– преимущественное обеспечение путевками в санатории, профилактории и Дома отдыха;
– госпитализация в госпитали для инвалидов войны при наличии свободных мест;
– первоочередное обслуживание в лечебно-профилактических учреждениях и аптеках; госпитализация в стационарах; выполнение заказов на зубное протезирование из обычных материалов;
– бесплатное изготовление и ремонт зубных протезов (за исключением протезов из драгоценных металлов) – для признанных инвалидами вследствии общего заболевания, трудового увечья и других причин.

## ЛЬГОТЫ ПО ПРОЕЗДУ:

– бесплатный проезд во всех видах городского пассажирского транспорта (кроме такси), а проживающим в сельской местности (имеющим постоянную прописку) – также автобусами междугородних маршрутов в пределах административного района по месту жительства при наличии утвержденных для данных маршрутов остановочных пунктов на территории района;
– бесплатный проезд на железнодорожном и водном транспорте пригородного сообщения и автобусах пригородных маршрутов;
– 50-процентная скидка со стоимости проезда один раз в год (туда и обратно) железнодорожным, водным, воздушным или междугородным автомобильным транспортом, или бесплатный проезд один раз в два года (туда и обратно) указанными видами транспорта или бесплатно один раз в год в одном направлении.

## ЖИЛИЩНО-БЫТОВЫЕ ЛЬГОТЫ

– первоочередное предоставление жилых помещений нуждающимся в улучшении жилищных условий;
– 50-процентная скидка по оплате за пользование телефоном (кроме междугородних и международных разговоров);
– 50-процентная скидка по оплате жилой площади, за пользование отоплением, водопроводом, газом, электроэнергией (излишняя жилая площадь до 15 кв. м. оплачивается в одинарном размере), топливо, приобретаемое в пределах норм, установленных для продажи населению;
– внеочередное пользование всеми видами услуг связи, внеочередная установка квартирных телефонов;
– льготная оплата за установку телефона (в размере 20 процентов);
– внеочередное обеспечение топливом.

## ДРУГИЕ ЛЬГОТЫ

– первоочередное выделение кормов для скота, находящегося в пользовании;
– освобождение от уплаты подоходного налога с заработной платы и других выплат, связанных с выполнением трудовых обязанностей, а также сумм доходов от занятия предпринимательской деятельностью, выполнения договоров гражданско-правового характера, авторского вознаграждения в размере, не превышающих десяти минимальных заработных плат в месяц;
– освобождение от уплаты земельного налога.

## ДОПОЛНИТЕЛЬНЫЕ ЛЬГОТЫ ДЛЯ ВЕТЕРАНОВ (УЧАСТНИКОВ) ВОЙНЫ, ДОСТИГШИХ 70 ЛЕТ

– ежегодное получение бесплатной санаторно-курортной путевки или выплаты денежной компенсации вместо неиспользованной путевки на лечение или отдых;
– капитальный ремонт индивидуальных жилых домов за счет средств местных бюджетов;
– 50-процентная скидка со стоимости проезда на железнодорожном, водном, воздушном и междугородном автомобильном транспорте с 1 октября по 15 мая на территории Республики Беларусь;
– бесплатная установка телефона;
– бесплатное обеспечение на семилетний срок эксплуатации автомобилем „Запорожец" с ручным управлением или мотоколяской на пятилетний срок эксплуатации при наличии противопоказаний к вождению автомобиля, но отсутствии противопоказаний к вождению мотоколяски;
– ежегодная денежная компенсация расходов (на бензин, ремонт, техническое обслуживание автомобилей и мотоколясок и запасные части к ним);
– ежегодная денежная компенсация расходов на транспортное обслуживание;
– бесплатное обеспечение инвалидными колясками.



## Сердечно поздравляем

*Дорогая, наша милая мамочка Нина Тарасовна РУСАКОВИЧ из д. Житлин!*

*Поздравляем тебя с днём рождения. Желаем тебе крепкого здоровья, долголетия и всего самого наилучшего в твоей жизни.*

*Ну и пусть говорят, что ты постарела,*
*Конечно, нелегкие были года.*
*Мы знаем, что в этом и наша вина.*
*И поздравляя тебя с днём рожденья,*

*Просятся в строчку такие слова:*
*Как жаль, наших мам мы беречь не умеем.*
*Убереги их для нас, сохрани их судьба!*

*Твои дочери.*

***

*Дорогую, милую и любимую дочь, сестру и мамочку ПИГУЛЕВСКУЮ Жанну Владимировну из д. Подстаринь поздравляем с днём рождения, 25-тилетием.*

*Желаем крепкого здоровья, счастья, радости и успехов всегда и везде.*

*Желаем быть всегда красивой,*
*А также доброй и простой.*
*Всегда приветливой и милой,*
*Всегда любимой, дорогой.*
*Пусть каждый день твой светлым будет,*
*Не гаснет пусть твоя звезда,*
*Пусть радость, счастье и удача*
*Тебе сопутствуют всегда.*

*Папа, мама, сестра, дочь Настя и сын Сашка.*

***

*Дорогой наш и любимый МИРОНЮК Павел Иванович из д. Ходаки!*

*Поздравляем тебя с днём твоего рождения. Желаем тебе крепкого здоровья, всегда быть веселым и никогда не печалиться.*

*Желаем счастья*
*И чуть-чуть печали.*
*Желаем, чтоб друзья не огорчали,*
*Чтоб боль и горе не встречались,*
*Чтоб радость жизни не кончалась.*
*Пусть будут весны*
*Среди зимы и лета.*
*Желаем много-много света.*
*И все задуманное, пусть свершиться,*
*Ведь ради этого и стоило родиться.*
*Ясного, чистого неба,*
*Сильной, горячей любви,*
*Жизни прекрасной*
*Без мук и ненастий*
*Вот пожелания наши.*

*Твои крестная, бабушка, тетя.*

***

*Дорогую маму Нину Васильевну ХОВАНСКУЮ из г. Ивацевичи от всей души поздравляем с днём рождения!*

*Единственной, родной, неповторимой,*
*Мы в этот день спасибо говорим.*
*За доброту и сердце золотое*
*Тебя сегодня все благодарим.*
*Без сна ночей твоих прошло немало,*
*Забот, тревог за нас не перечесть,*
*Земной поклон тебе, родная,*
*За то, что ты на белом свете есть.*

*Сын и дочь.*

***

*Дарагая Святлана Якаўлеўна ПЫТЛЯК з г. Івацэвічы!*

*Сардэчна віншуем цябе з юбілеем. Жадаем табе моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў, радасці і дабрабыту.*

*Желаем, чтоб солнце тебя согревало,*
*Чтоб чёрные тучи тебя обошли,*
*Чтоб счастье с тобою все годы шагало,*
*А беды и горе в дороге не жгли.*
*Пусть слёзы обид на глазах не искрятся,*
*И пусть не коснётся висков седина,*
*А дни твои миром и радостью длятся,*
*Мы рядом с тобою – и ты не одна.*

*Няхай цябе саграває сямейная цеплыня, а усмешка і поспех заўсёды спадарожнічаюць у тваім жыцці.*

*Сястра Люда і яе сям'я.*

*Дарагая наша, любая жонка і мамачка Алена Уладзіміраўна ГОРБАЧ з в. Магіліцы!*

*Прымі нашы самыя сардэчныя віншаванні з днём нараджэння.*

*Няхай табе сонца смяецца,*
*Няхай табе ўсё ўдаецца*
*Жадаем жа шчасця,*
*Здароўя без лекаў,*
*Дабра і спакою,*
*І доўгага веку.*
*З любоўю і павагай*

*муж, дачка Аксана, сын Дзіма.*

● *СОВЕТУЕТ ВРАЧ*

# БЕРЕГИТЕ ЧЕСТЬ СМОЛОДУ

## ТОГДА И ЗДОРОВЬЕ СВОЕ СБЕРЕЖЕТЕ

**Пройдёт два года – и Ивацевичский кожно-венерологический диспансер отметит свое 30-летие.**

**Сегодня он занимает три здания в Холопье, с поликлиникой и стационаром на 30 коек, клинической и серологической лабораториями, пищеблоком и подсобными помещениями.**

**Со временем здесь сформировался дружный коллектив, насчитывающий сегодня три врача, девять средних медработников и до полутора десятка прочего обслуживающего персонала. Рядом работают и ветераны, и молодёжь. Хорошо знают в районе врача-дермовенеролога Марию Александровну Вакулич, заведующую лабораторией Тамару Абрамовну Цубер, участковую медсестру Таисию Ивановну Хмельницкую, палатную сестру Тамару Федосеевну Василевскую, старшую медицинскую сестру Марию Антоновну Евпалову. Пользуются уважением в коллективе санитарка Евгения Михайловна Кариба, повар Мария Васильевна Клютко.**

**С 1983 года, вот уже 13 лет, неизменно руководит диспансером Анатолий Данилович Сычёв, за плечами которого четверть века лечебной практики. Ему, врачу высшей категории, и предоставляем мы сегодня слово.**

О СУЩЕСТВУЮЩЕЙ в нашем районе ситуации с венерическими заболеваниями мы уже говорили с корреспондентом „Газеты Уладзіміра Кудзінава" в одном из апрельских её номеров. Тогда в интервью больше затрагивались социальные аспекты возникновения БППП, как коротко в медицинской терминологии именуются болезни, передаваемые половым путём. Теперь же я хочу подробнее остановиться на клинических показаниях наиболее опасного венерического заболевания, каким, как известно, является сифилис. Кто-то меня сейчас мысленно поправит: мол, а что, сифилис страшнее СПИДа? Нет, конечно, но до последнего у нас в районе, к счастью, ещё не дошло. Зато сифилис расцвёл, если уместно так будет сказать, пышным цветом. Достаточно сказать, что редко когда в нашем стационаре не находятся с этой болезнью 10–15 человек. 110 наших бывших клиентов мы держим под своим наблюдением.

Что меня, как врача, ужасает, так это не только рост заболеваний, но и омоложение самой болезни. И когда попадает к нам, скажем, 16-летняя „жрица", смотришь на неё и думаешь: а ведь она же ребенок по существу. Хотя, как потом оказывается, у этого „ребенка" уже полдесятка, если не больше, партнёров, не подозревающих, какую „награду" они заимели, вкусив „запретный плод".

Я говорил в прошлый раз, что кроме социальной подоплёки расширения границ сифилиса, когда изнывающие от безделья молодые люди ищут не только удовольствий, но и лёгких заработков (конечно же, последнее больше относится к представительницам слабого пола), есть еще одна серьёзная причина. Имеется здесь ввиду полное невежество нашей молодежи в половых вопросах. Школа в этом плане, насколько мне приходится убеждаться, даёт пока что очень мало. Восполнить этот пробел я и хочу в какой-то мере своей сегодняшней статьей о наиболее опасном венерическом заболевании – сифилисе.

Да, и в самом деле это очень тяжёлая болезнь, опасная тем, что в первые полтора-два месяца она ничем о себе не заявляет, а следовательно, не вызывает никаких жалоб у заболевшего. Начинается же сифилис со скрытого, так называемого инкубационного периода, после которого на месте внедрения возбудителя – бледной трепонемы появляется твердый шанкр, представляющий собой язву округлой или овальной формы с уплотнением в основании и блестящим мяса-красного цвета дном. У мужчин его заметить легче, у женщин труднее по вполне понятным причинам. Вот почему последние, не заметив течения болезни, чаще всего являются источником заражения. Шанкр появляется чаще всего на половых органах, реже – на губах, языке.

При попадании бледной трепонемы от больного к здоровому человеку, в организме последнего возбудитель тут же интенсивно размножается в кровеносных и лимфатических сосудах. Спустя 3–4 недели на месте проникновения бактерии и появляется безболезненная язвочка, которой больные зачастую или не придают особого значения, или пытаются залечить, смазывая зелёнкой, промывая марганцовкой и т. п. Сразу же замечу: всякое самолечение здесь бессмысленно. Самое разумное в такой ситуации – немедленно обратиться к врачу, что, кстати, некоторые из наших пациентов в свое время сделали. На этой стадии нам, медикам, значительно легче справиться с болезнью, да и для окружающих такой больной еще не настолько опасен. Если же болезнь прогрессирует, она даёт о себе знать уже увеличением лимфоузлов, гриппообразным состоянием со слабостью, головной болью, температурой. Если и на этот момент больной не обратится к врачам, на 8-й – 10-й неделе уже появляется положительная серологическая реакция на сифилис. И наконец, через 3–4 месяца болезнь переходит во вторичную стадию, когда на коже появляется сыпь в виде небольших розовых пятен, узелков медно-красного цвета, поверхность которых в межъягодичной складке, в полости рта, в половых органах становится влажной, блестящей. В это время происходит поражение нервной системы и внутренних органов – печени, сердца, мозга. При дальнейшем прогрессировании сифилиса он через 4–5 лет переходит в третичную стадию, когда уже начинаются необратимые процессы в головном мозгу и внутренних органах, такие как эпилепсия, менингиты, расширение аорты, гуммы, т. е. различные опухоли с распадом органов и смертельным исходом.

В случаях, если сифилис не лечился или лечился недостаточно, родители передают болезнь потомству. При этом ребенок заболевает еще во внутриутробном периоде, и таких случаев к сожалению, у нас уже было несколько. Хочу предупредить тех, кто легкомысленно относится не только к собственному, но и здоровью своих будущих детей: исход при сифилисе может быть самый различный – выкидыш, преждевременные роды мертворождённых, рождение больных детей. Часто такие дети с пороками костей, нервной системы, органов зрения и слуха погибают в первые недели и месяцы жизни.

Из всего сказанного, думается, становится понятным, как важно при заболевании или при подозрении на заболевание не откладывая обратиться к врачу. Самолечение здесь недопустимо, ибо оно, кроме усугубления болезненного процесса, ничего больше не даст. При своевременном обращении за помощью, на так называемой первичной стадии развития болезни, её можно излечить через 14–16 дней, что уже нельзя сделать, когда болезнь запущена.

Вот почему очень хотелось бы, чтобы об этом задумался всерьёз каждый, прежде чем вступить в половую связь с партнёром или партнёршей. Говорят же в народе: „Береги платье снову, а честь – смолоду". Неспроста так посоветовано. Поберечь честь смолоду, значит, сохранить собственное здоровье. А оно не оценивается никакими деньгами, ибо бесценно.

**А. СЫЧЁВ,**
**главный врач Ивацевичского кожно-венерологического диспансера.**

## АБ'ЯВЫ

### ИВАЦЕВИЧСКИЙ УЗЕЛ ЭЛЕКТРОСВЯЗИ

*сообщает, что с 14.08.96 г., всем абонентам г. Ивацевичи, пользующимся льготой по оплате за телефон, необходимо пройти перерегистрацию до 01.09.96 г. в абонентском отделе РУЭС. При себе иметь документ, подтверждающий льготу и паспорт.*

*Сельским жителям, и жителям г. п. Телеханы, г. Коссово перерегистрацию проходить в с/Советах и горсоветах.*

*Лицам, не прошедшим перерегистрацию по состоянию на 1.09.96 г., оплата за пользование телефоном будет производиться в полном размере .*

● *Куплю 3-хкомнатную квартиру или частный дом. Обращаться по тел. 2-22-49 в любое время.*

● *Куплю квартиру. Звонить по тел. 2-29-95 в любое время.*

● *Утерянные документы на имя Мацко Г. М. Прошу вернуть за вознаграждение. Звонить по телефону 2-16-62 после 17 часов.*

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1,5 друк. аркуша.
Падпісана да друку 15 жніўня ў 14.00.

ЗАСНАВАЛЬНІК: гандлёва-прамысловая фірма „Івацэвічы" Рэгістрацыйны нумар 482.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты Уладзіміра Кудзінава". Тэлефоны: рэдактара – 2-12-29, карэспандэнтаў – 2-46-30.



Індэкс 63959. Тыраж 2.320 экз. Заказ № 1563